Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 24. Вільня, Субота 7 Жніуня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Будзьма дзейнымі!

Калі прыраўнаваць цяперашні стан беларускае сьвядомасьці ў Заходняй Беларусі із станам гэтае сьвядомасьці ў 1920—21 годзе дык пабачым розьніцу вялізарнаю. Заходняя Беларусь вельмі зьмянілася, яе проста цяперака цяжка пазнаць. 5 год назад усюды можна была знайсьці сьвядомых беларусоў, але былі расцярушаныя адзінкі, на пару групы, затое ня было сьвядомае масы беларускае. Цяпер гэтая маса ёсьць. У цяжкіх муках яна нарадзілася. Калі раней на'т не навіна была знайсьці вёску бяз жаднага сьвядомага беларуса, дык цяпер такой вёскі з агнём у дзень не знайдзеш. У найцямнейшых і найзабітшых кутках ёсьць прынамся значная частка або напалову сьвядомых беларусоў. У мясцовасьцях, дзе з тых ці іншых прычынаў поля дзеля нацыянальнага ўсьведамленьня было лепшае—сьвядомыя ўсе, або блізу што ўсе.

Наперадзе ў нацыянальным русе йдзе моладзь, але й старшыя не астаюцца: беларуская сьвядомасьць ня мінае, але масава захоплюе і найстаршых старых. Як вера-імкненьне да лепшага сьветлага жыцьця, імкненьне да шчасьця і волі, беларускі рух даступны ўсім чыста. Я бачыў канаючых 70-ці годніх старых, каторым надта не хацелася ўміраці; на сьмяротным ложку, перад самым кананьнем яны прасілі Бога прадоўжыць іхняе жыцьцё, яны казалі: „Хоць-бы крышку пажыць, каб пабачыць перад сьмерцей вольную Беларусь!"

Сьведамыя Беларусы дзяйнейшыя (актыўнейшыя), сьвятлейшыя, ляпей разьбіраюцца ў жыцьцю палітычным, грамадзкім і культурным. Яны барджэй заводзяць новыя спосабы гаспадаркі. Можам сьмела сказаць, што сьвядомыя Беларусы йдуць наперадзе ў жыцьцю. Наагул беларускі рух — гэта сіла, што творыць новае жыцьцё. А несьвядомыя астаюцца ззаду ў жыцьцю, яны цёмныя й духоўна мляўкія, часамі падумаеш: „жывуць гэтыя людзі, ці гніюць?"

Але ня ў роўнай меры з пашырэньнем сьвядомасьці ў народнай гушчы беларускай, павялічаецца актыўнасьць (дзейнасьць) сьвядомых Беларусоў. У некатарых мясцох гэтая актыўнасьць павялічылася значна, у большасьці мала, а ёсьць мясцовасьці, дзе праца беларуская сьвядомых Беларусоў роўна нолі. Паглядзеце, ці шмат працуе на адраджэнскай ніве, прыкладам у Вільні? Бяссумлеву лічба працуючых шмат меншая за лічбу непрацуючых. А на сяле яшчэ гарэй. Тутака бязьдзейнасьць нашых сяброў і сябровак мае шмат размавітых прычынаў. Адныя не працуюць дзеля таго, што, хоць усьведаміліся, але працаваць на ідэйнай ніве беларускай яшчэ не прывычаіліся. Бадай, што гэтых ёсьць найболей, Другія не працуюць, думаючы, што неяк абыйдзецца бяз працы іхняй; тыя, што ў Сойме, што выдаюць газэты і гэт. пад., даб'юцца лепшых правоў, а яны ўжо возьмуцца потым. Гэта трутні ў нашым руху, што хочуць мёду бяз працы. Іншыя не працуюць ізь вялікай асьцярожнасьці перад паліцыей,ураднікамі і іншымі палякамі ды нашымі выродкамі. І хто яго пераліча, дзеля чаго шмат хто агіляецца ў ідэйнай працы дзеля адраджэньня свайго народу. Гледзячы на ўсіх гэтых ідэйных лянуцькаў, залянуецца й той, хто зь іншымі людзьмі працаваў-бы шчыра. А рэзультат ё той, што шмат ёсьцека людзёў, але працы мала.

А тымчасам толькі праца, толькі рух творыць жыцьцё; стаячая вада гніе. І новае жыцьцё беларускае створыць толькі праца, пры гэтым праца не адзінак, але ўсяго народу.

Дык да працы! Няхай ніхто ня гуляе. Працы поўна і яна размавітая, бяры якую любя. Працуйма дзеля ўсьведамленьня нашых яшчэ несьвядомых братоў. Пашырайма беларускія газэты і кніжкі, асабліва сваю сялянскую газэту „Сялянскую Ніву"; нягодна, калі хто адкладае пасланці грошы на беларускую газэту, а тымчасам пушчае іх на выпіўку. Даглядайма, каб за войта, у валасную раду (а значыцца ў паветавы соймік) былі абраны толькі сьвядомыя Беларусы. Гуляйма беларускія ігрышчы й спэктаклі. Даюць, ці не даюць родную школу, але дамагаймася яе; як будзем дамагаціся, дык із часам дадуць. Арганізуймася, закладайма гурткі Беларускага Сялянскага Саюзу і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры. Пішэма лісты ў беларускія газэты аб удачах у нашым жыцьцю і аб крыўдах. Хто можа, няхай піша стацьці. Наўчоныя хай творац беларускую навуку. Уся ніва гаспадарская (земляробская, гаспадарка, промысл, гандаль) ляжыць дзірванам; колькі-ж тут працы!

А хто раз возьмецца шчыра за працу, таму балей яе паказаваць ня трэба, ён сам заўсёды яе знайдзе, або праца сама да яго прыйдзе.

Дык хто да чаго дуж, працуй, стаў (будуй); а першая й апошняя праца, праца, якой усе чыста маюць займацца, ёсьць усьведамленьне несьвядомых братоў.

Пры працы ўсіх, беларускі рух павялічыцца не ўдвая, не ўтрая, навет не ў 10, але 100 разоў.

Дык хто жадае ўдачы беларускаму руху, а шчасьця свайму народу, хто жадае каб барджэй шчэз зьдзек над намі і няволя, няхай не агіляецца, але якга возьмецца за працу.

Будзьма дзейнымі, актыўнымі, будзьма дужымі!

*Максім Прынскі.*

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаушы дай яе суседу.

## Дваякая інтэлігенцыя.

Сучасная сацыолёгія, як навука, што яшчэ ня зусім злажылася, не змагла дагэтуль адказаць на асноўныя пытаньні грамадзкага жыцьця, а паіменна: што запраўды трэба лічыць за галоўны мотар у развою грамадзкага жыцьця? Шукаючы адказу на гэтае пытаньне наўчоныя натварылі шмат усялякіх дактрынаў адна з аднэй спрэчных і, здаецца, яшчэ балей заблыталі гэтую справу.

Некатарыя біолёгі разглядалі грамадзянства як свайго роду арганізм, падобны да арганізму асобных жывёлінаў і цьвярдзілі, што жыцьцём грамадзкім кіруюць людзкія жарсьці (страсці). Іншыя ізноў даводзілі, што сьветам кіруюць вялікія ідэі, створаныя ўзгадаваньнем і асьветай (Конт); трэція даводзілі, што гісторыю людства творыць ня што іншае, як празаічныя эканаміцкія адносіны чалавека да чалавека (Маркс). Гэтая апошняя тэорыя сфармуляваная навыразьней прыхільнікамі т. зв. гістарычнага матэр'ялізму, мае цяперака шмат абароннікаў, але канчальна пытаньня вышуспомненага не разьвязуе.

Разглядаючы ў кароткіх словах асноўнае сацыяльнае пытаньне, у гэтых досьледах трэба ўгледзіць адзін мамэнт прысутны ў кожнай з успомняных тэорыяў: усе паваротныя пункты гісторыі тварыліся пры чынным учасьці найздальнейшых адзінак, што здабылі той ці іншай дарогай нейкую асьвету і мелі сваю незалежную думку. Іншымі славамі—жыцьцём народаў кіруе яе інтэлігентная кляса, якая на працягу гісторыі пад усялякімі формамі станавілася элемэнтам кіраўнічым, хоць залежным ад тых, яшчэ канчальна не раскрытых сацыёлёгіяй дзейнікаў.

Кожны народ мае сваю інтэлігенцыю вельмі разнакалёрную па складу, лічбе, клясовасьці і вышыні інтэлекту. Чым балей народ мае інтэлігенцыі, тым большая яго сіла, дабрабыт і слава. Народ бяз інтэлігенцыі, гэта армія бяз штабу, якую кожны можа павясьці, куды каму спадабаецца, або нават зьністожыць.

Ці-ж дзеля гэтага ня варта заняцца пытаньнем: колькі і якую інтэлігенцыю маем, мы, беларусы?

Адказаць на гэта ў рамках газэтнай стацьці—справа рызыкоўная, але таму, хто бліжэй прыглядаўся на наш адраджэнскі рух, гэтае пытаньне ня здаецца і вельмі цяжкім.

Адносна лічбы нашай інтэлігенцыі тут можна згадзіцца з брашурай К. Срокоўскага, што мы маем інтэлігенцыі ўсяго 2 працэнты. Трудна дзе найсьці меней, але пацешымся тым, што гэтыя 2 працэнты ўжо патрапілі разрушыць хоць часткава вялікі народ.

Які-ж склад нашае інтэлігенцыі?

Іншыя народы могуць сабе пазволіць на роскаш, мець інтэлігенцыю непрацоўную! У нас гэтага няма. (Маем затое прымусова непрацоўную г. зн. безработных вучыцялёў і іншых, якія напрасна выціраюць парогі поль-

скіх установаў, каб дабіцца нейкай працы). Мы сваю інтэлігенцыю сьмела можам разьдзяліць на 2 важнейшыя катэгорыі. Першая з іх будзе інтэлігенцыя сялянская, другая мяшчанская.

Першая — гэта сыны вёскі беларускай. Спаткаць іх можна як у вёсцы, так і ў месьце. Большая частка іх высокай эдукацыяй і эўрапэйскім воблікам пераважна ня грэшыць. Пазнаць іх лёгка і па вопратцы, якая паказуе на вялікую сувязь яе нашэльніка з саламянай страхой. Але не адна толькі вопратка і вясковыя манеры зьвязуюць іх з вёскай і народам нашым. Зьвязаны яны моцна **душой** з сваімі бацькамі-мужыкамі, вёскай, мовай і цэлым народам. І ня гледзячы на іх часта праблематычную інтэлігентнасьць, трэба сьцьвердзіць, што гэтыя людзі, запраўды невялічкія, зьяўляюцца прадстаўнікамі і нашэльнікамі вялікай народнай як духовай, так і фізычнай сілы і жывучасьці. Паходжаньне, шчыры дэмакратызм, любоў да сваей зямлі, народу і мовы з боку гэтай інтэлігенцыі, дае нам поўную гарантыю спадзявацца ад яе вялікіх дзялоў і ахвяраў на аўтар бацькаўшчыны.

Як-жа выглядае нашая інтэлігенцыя мяшчанская?

Называем «мяшчанская», бо ў сваёй большасьці жыла і жыве ў месьце і навучылася беларускае мовы найчасьцей ад інтэлігенцыі вясковай. Найхарактэрнейшай азнакай гэтай групы ёсьць, калі так можна сказаць, іх нацыянальная часовасьць, або проста **сэзонная беларускасьць**. Людзі гэта, пераважна выкінутыя гістарычнымі падзеямі за борт сучаснага жыцьця, лічылі неабходным выкарыстаць беларускі рух для сваіх асабістых мэтаў. А дзеля таго, што гэта былі адзінкі часта з вышэйшай эдукацыяй і жыцьцёвай практыкай—пры нястачы сялянскай інтэлігенцыі яны борзда запоўнілі беларускія ўстановы, а не адзін з іх рабіў і робіць высілкі навет на прадстаўніка нашага народу.

Навучыўшыся «в три мига» беларускай мовы, яны навет пачуліся поўнымі гаспадарамі на мейсцы працы і на сваіх супрацоўнікоў з вёскі пачалі глядзець вокам мяшчаніна на мужыка. Мала таго, яны стараюцца ўсюды правясьці «сваіх людзей» коштам ня маючых кваліфікацыяў інтэлігентаў сялянскіх.

Даючы такое асьвятленьне нашай беларускай інтэлігенцыі ня можна не заценіць (зазначыць), што сярод беларускага інтэлігентнага мяшчанства ёсьць вельмі шчасьлівыя выняткі. І сярод іх спаткаюцца вельмі шчырыя патрыёты і дзеячы, але, на жаль, гэта адзінкі лічаныя на пальцы.

Ці так мае быць заўсёды?

Тут навуковыя разважаньні не патрэбныя.

Адказ напрашаецца сам сабой: наколькі сялянская інтэлігенцыя мае перад сабой будучыню, натолькі «мяшчанская», калі не захопіцца запраўды ідэяй свайго народу, засуджана на пайсьці туды скуль узялося. Станецца гэта тады, калі прыйдзе новая зьмена інтэлігентаў з пад саламянай страхі, якая сьмялей павядзець наш народ па простай дарозе да ўжыцьцёўленьня вялікіх нацыянальных і запраўды дэмакратычных ідэалаў.

*Р. Ставіч.*

# МЭМОРЫЯЛ

### Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры

**ў справе гаспадарскіх патрэбаў беларускага сяла, якія на днях падаецца Прэзэсу Рады Міністраў, Міністру Скарбу, Міністру Земляробства і Гаспадарсьцьвенае Маемасьці і Міністру Замельных Рэформаў.**

Дагэтулешні нягодны стан гаспадаркі беларускага сяла ў Польшчы вымагае ад Ураду адпаведнае палітыкі, катора павінна прыняці пад увагу наступныя пастуляты:

#### А) Падаткі і платы.

I. Цяперашняя сыстэма падаткавая і вышыня гаспадарсьцьвеных і самаўрадовых цяжараў ёсьць у вялікім разыходжаньні з істнуючымі ў працату вякоў на т. зв. Крэсах Усходніх праўнымі звычаямі ў гэтай галіне ды з маемасным станам беларускага сялянства. Перад вайной гаспадарсьцьвенныя і камунальныя падаткі бралі 1—2 разы ў год у пару найвыгаднейшаю земляробам, а цяперака маем зьявішча бязупынных позваў і платных загадаў, каторыя разам з наказамі аб кары за адклад могуць стварыць цэлы стог літэратуры, да якое консэрватыўная псыхіка беларускага селяніна ня можа прызвычаіцца, і яны выклікаюць у яго няпрыемныя пачуцьці, ад'емна ўплываючыя на поступ у гаспадарцы і школдныя Гаспадарству.

З гледзішча інтарэсаў беларускага сяла (вёскі), радзім у галінах гаспадарсьцьвенных і самаўрадовых падаткаў гэткія зьмены:

1. Вялічыня зямельных падаткаў (і маемаснага) павінны апірацца, апроч прастору, на фактычнай продуктыўнасьці зямлі і платнае здольнасьці сялянаў, пры гэтым вышыня падатку павінна блізіцца да перадваенных нормаў, а ў некаторых прыпадках навет быць ніжшай.
2. Да прызнаньня Урадам адпаведных палзыкаў на адбудову зьніштожаных вайною гаспадарак, а дагэтуль неадбудаваных, звольніць гэтыя гаспадаркі ад зямельнага, маемаснага і інш. падаткаў.
3. Завядзеньне далёкайдучых ашчаднасьцеў у самаўрадовых выдатках, каб радыкальна зьменшыці самаўрадовыя падаткі, накладаныя на сялянства і мяшчанства.
4. Радыкальнае зьменшаньне (або скасаваньне) таргоўага (плата ад сялянаў за ўступ ці ўезд на торг або кірмаш у мястэчка) устанаўлянага магістратамі або валаснымі войтамі (Урады гэтыя да гэтуль ня выбіраюцца).
5. Скасаваньне падаткаў ад свойскае жывёлы (наўперад ад жывёлы рагатае), бо гэтыя падаткі абмяжоўць развой гадоўлі і перашкаджаюць поступу культуры земляробскае.
6. Збор падаткаў павінен быць 1—2 разы ў год у пару найвыгаднейшаю земляробам, пры гэтым платныя загады маюць прысылацца за 2—3 месяцы да часу плачэньня.
7. Звальненьне ад падаткаў або прызнаньне вялікіх палёгкаў сялянам, што мелі стыхійныя беды або непчасьлівыя прыпадкі.

#### В) Палітыка земляробская.

II. Пo малы ў прастранстве зямельны варштат, на якім беларускі селянін вядзе сваю гаспадарку, павінен даць найвялікшую продуктыўнасьць. Дзеля гэтага ўрадовыя органы мусяць стварыць найвыгаднейшыя варункі, зрабіць магчымым развой земляробства ў кірунку павялічэньня і паляпшэньня гадоўлі жывёлы.

Да пастулятаў у гэтай галіне належаць:

8. Палітыка цэнаў на земляробскія прадукты, як расьлінныя так і жывёльныя павінна кіравацца да падмоцы стану земляробства, да павялічэньня куплявое сілы беларускага сялянства.
9. Мытная палітыка ў межах прамысловых вырабаў, канечне патрэбных дробнаму земляробству, павінна парваць із звыш меры вялікім протэкцыяналізмам і зрабіць магчымай куплю сялянам танных земляробскіх прыладаў.
10. Вёскі, што ня маюць свайго пасьбішча а ляжаць блізка гаспадарсьцьвеных лясоў, павінны карыстацца з пасьбішча ў гэных лясох на варунках найвыгаднейшых сялянам, пры гэтым нормы платы ад штукі ня могуць перавышаць нормаў перадваенных, наадварот у шмат якіх прыпадках павінны быць навет ніжшыя.
11. Вёскі, каторыя ня маюць свайго пасьбішча (або маюць недаволі), а карысталіся перад вайною з пасьбішча ў лясох прыватных, павінны карыстацца з гэтага пасьбішча і цяперака на варунках не перавышаючых нормы перадваенные, абавязуючай звычаем. Справа гэтая павінна быць азначана законамі, і мець на ўвеце абарону інтэрэсаў дробнага сялянства ад вызыску з боку некаторых паноў, зацьвярджаючы максімальныя цэны за карыстаньне з пасьбішча.
12. Даваньне Земляробскім Банкам (Bank Rolny) і Банкам Краёвае Гаспадаркі (Bank Gospodarstwa Krajowego) даўгарочных (даўгатэрміновых) пазыкаў сялянам на куплю інвэнтара, зямельнаю мэліёрацыю, адбудову гаспадарак, і кароткарочных (6—9 месячных) на куплю штучных гнаёў. Пазыкі гэтыя могуць быць даваны пасярэдніцтвам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.
13. Каб моладзь беларуская запраўды магла карыстаціся із земляробскіх школаў, што на беларускіх землях, вучэньне ў гэтых школах павінна быць у мове беларускай.

#### С) Зямельная рэформа.

III. Палітычныя і гаспадарскія зьмены, вы кліканыя эўропэйскай вайной не асталіся бяз уплыву на хвармаваньне гаспадарскіх і палітычных адносінаў на беларускіх землях. Адным із праяваў гэтых уплываў ёсьць, што насяленьне беларускае вёскі пазбаўлена магчымасьці заўсёднае эміграцыі ў месты, а дзеля гэтага балюча адчувае перагушчэньне сяла ў адносінах да належачых яму прастораў зямлі. Дзеля гэтага канечна трэба павялічваць земляробскія гаспадаркі або тварыць новыя гаспадаркі для мясцовага насяленьня. У сувязі з гэтым неабходна:

14. Правесьці зямельную рэформу, прызначыць зямлю мясцовым малазямельным і безьзямельным сялянам і даць ім магчымасьць фактычна загаспадарыцца.
15. Каб зрабіць магчымы поступ у земляробскай культуры, пры парцэляцыі двароў прызнаваць 1—2 гэктары зямлі мясцовым Гурткам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры з мэтаю наладжаньня тамака дазнавальных станцыяў дзеля разводу расьлінаў, карысных у земляробстве.
16. Пры камасацыі грунтаў павінны быць брадзены пад увагу патрэбы малазямельных гаспадарак, пры гэтым адпаведныя ўлады бязумоўна мусяць тарнавацца да волі канстытуцыйнай большасьці сялянства; так сама малазямельныя гаспадаркі павінны дастаць адпаведную колькасьць зямлі, даючаю магчымасьць весьці самастойную гаспадарку.
17. Пры ліквідацыі сэрвітутаў у жадным прыпадку ня можа стацца зьменшаньне сялянскіх правоў, сяляне павінны дастаць аднолькавай вартасьці часьць зямлі, адпавядаючаю правом і гаспадарскім патрэбам вёскі.

---

**Наступны № „Сялянскай Нівы“ выйдзе ў сераду 18-га жніўня.**

---

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Із Заходняе Беларусі.

### Палітычны замах на беларускага дзеяча ў Горадне.

Наказуюць, што ў ночы з 31 ліпня на 1-га жніўня каля 1-ай гадзіны на вуліцы Напалеона ў Горадне таемным спосабам быў ранены Міхал Гурын, ведамы соцыялістычны дзеяч беларускі. Замах зроблены ля дому, у якім жыве Гурын. Злачынец стрэліў у яго 8 разоў, 2 кулі лучылі ў Гурына, адна ў лапатку, другая ў нагу. Ранены астачаю сілы дацягнуўся да готэлю Гандлевага, дзе праездам пераз Горадзен задзержыўся беларускі пасол Рагуля, з катором Гурын, безпасярэдне перад замахам на яго, даўжэйшы час гутарыў і ад якога толькі што варочаўся.

Гурына па дохтарскім аглядзе ў цяжкім стане перавезьлі ў шпітaль. У чацьвер стан ягонага здароўя быў небясьпечны. Наагул думаюць, на аснове пагалосак, што злачынны замах зроблены на грунце палітычным. („Słowo“).

## Лісты.

### З падарожжа.

*(Карэліцкая воласьць).*

Я жыву на вёсцы. У канцы мая сёл. году мне трэба было пабываць ў Навагрудку, але як ў той час была вялікая гарачыня, то я пашкадаваў мучыць скаціну і пастанавіў ісьці пехатой.

Перакінуў цераз плечы кій, павесіў на яго торбу з хлебам і гайда ў дарогу. Я, прызнаца, вельмі люблю падарожжа. Ідзеш, і бачыш сабе, як людзі будуюцца посьле вайны, бачыш, што дзе перамянілася і ўсякія гэтак навіны пазнаеш. Вось і гэты раз іду гасьцінцам; аж гэтак незаметна прайшоў ня мала, аж да мяст. Карэлічы. Калі тут я пагдядзеў на сенажаці, то аж задзівіўся. Сярод вялізарных лугоў шырокаю срэбнаю йстужкай, аж хваль. Людвікова, аж да вёскі Леска, блішчэла вада. Я астанавіўся зьдзіўлены. Скуль узялося гэтулькі вады, сваімі размерамі напамінаючы вялікую рэчку? Стаю і разгадую загадку, аж бачу чэша па дарозе сівенькі, але добры дзедка, і, падходзячы да мяне пытаецца: „Чаго, чалавеча, прыглядаесься?“ — „Дык, скуль-жа, дзеду, пытаюся, — гэтая вада цяпер? Тут-жа яе ніколі ня было“. Дзед, дагадўшыся, што я ня тутэйшы, адказаў: „Э, браце, ты, бачу, ня знаеш важных рэчаў, дык я раскажу. Гэта на нашай мужыцкай мове называецца не вада а бяда; на панскай-жа мове называецца „рыбнэ ставы“.

Я акінуў вокам гэтую „бяду“, а дзед расказаў іх гісторыю і тую школу, якую людзі ад яе церпяць.

„Гэтыя ставы—пачаў дзед—началі будавацца 1923 г. Карэліцкім дваром і вельмі сьпешна, бо ня было дазволу адміністрацыі, а трэба было гр. Путкамеру ратаваць зямлю ад парцэляцыі. Прайшло тры гады. За гэтыя часы ня ўсе ставы пабудаваны, але і тых, што ёсьць досыць, каб скора ўсіх сялян нашай воласьці давесьці да галіты. Вазёры заліваюць мужыцкія сенажаці, пашу, бо ўся вада з вазёр мае выход толькі на сялянскія землі і мужыцкія коні і каровы грэзнуць, заліваюцца, авечкі вёсак Заполя, Лёска і Красная ў 1925 г. ад мокрай пашы падохлі. Травы на сялянскіх сенажацях ніякай магчымасьці няма касіць, альбо касі голы, бо вады па пояс. Сяляне Запольскай грамады ўсе абсацы пабілі ў Навагрудку, шукаючы ратунку ад шкодаў. Але начальства вяло сябе так, як-бы гэта справа ня вялікай вагі і сама сабою ўляжыцца. Напасьледак ў 1925 г. Навагрудзкая адміністрацыя здалася і прыслала камісію на агледзіны рыбных вазёраў і пашкоджаных сялянскіх сенажацяў. Камісія экспэртаў разам із старостай устанавілі, што 1) ставы выкапаныя без дазволу водная камісіі, 2) валы ста-

# НАВІНЫ.

— **Выйшаў з друку і прадаецца брашура** п. н. „Статут Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры". Высылаецца на жаданьне па атрыманьні 25 гр. (можна паштовымі маркамі). Адрэс: Вільня, Завальная 7—8. Віленскі Аддзел Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

— **Праект новай беларускай гімназіі.** Таварыства Беларускай Школы пачало акцыю ў кірунку адчыненьня беларускай гімназіі ў Глыбокім.

— **Зацьверджаньне арышту.** Віленскі Акружны Суд зацьвердзіў арышт наложаны на № 21 „Беларускай Справы", а так-жа на брашуру ў беларускай мове пад назовам: „З усіх бакоў польскай дзяржаўнасьці".

— **Што будзе з Паўлюкевічам?** Ходзяць чуткі, што Паўлюкевічава апякуна—вайводу Рачкевіча назначаюць у Пазнань. Іншы вайвода пэўне захоча дзяржаць Паўлюкевіча.

— **Платы пры даставаньню загранічных пашпартаў.** Плата за загранічны пашпарт мае быць зьменшана з 500 на 100 залатовак. Пасьведчаньне аб беднасьці, дзеля дастаньня палёгкавага пашпарту, можа дастаць навет той, хто зарабляе 800 залатовак у месяц.

# Гаспадарскі адзьдзел.

### Прыватны капітал у БССР.

Пад гэтым назовам нейкі М. П. надрукаваў у № 154 „Сав. Бел." стацьцю, каторую канчае гэтак:

„Падагулюючы, можна адзначыць, што прыватны капітал дагэтуль яшчэ займае значнае месца ў народнай гаспадарцы Беларусі, але ў той час, як роля яго ў гандлі вельмі значная, у прамысловасьці яна зусім нязначная. Разьмер прыватнага капіталу расьце, але слабей, чым сацыялістычныя элемэнты нашае гаспадаркі (аб апошнім можна сумлявацца—*Рэд. „Сял. Ніва"*). Але некаторы рост прыватнага капіталу паказуе, што ўчасьце яго ў народнай гаспадарцы эканамічна мэтазгодна".

Адцемім, што гэты прыватны капітал належыць не беларусам. Як капітал чужы, ён быў-бы карысны ў промысьле, але ня гандлі — пасярэдніцтве.

Беларусы павінны імкнуцца, каб здабыць свой капітал. Няма чаго баяцца „мяшчанства". Каб не аставацца ад іншых народаў, мы маем жыці тым-жа жыцьцём, якім жывуць усе людзі. А пераменіцца у іншых народаў — пераменіцца і ў нас. Паверце, што радавая ўлада болей лічыцца з „буржуямі" як із пралетарамі, ня кажучы ўжо аб сялянах. Каб у Радавай Беларусі было сьвядомае мяшчанства беларускае, дык зусім начай выглядала-б беларусізацыя.

### Цэны ў Вільні з 5 жніўня.

*Жыта:* ад 24 зл. 50 гр. да 25 зл. за 100 кілегр. авёс 33—35, броварны ячмень 36—38, на кашу 32—34, жытнія вотрубы 24—26, пшанічныя 24—26, ячменныя 20—21.

*Мука:* пшанічная амэрыканская 95 гр. у гурце і 1 зл. 5 гр. дэталічна за 1 кілегр., краёвая 50 прац. 80—90, 60 прац. 45—48, ржаная 30—35, грачысная 55—60, ячменная 55—60.

*Хлеб:* пітляваны 50 прац. 50—55 за кілегр. 60 прац. 45—48, ржаны 30—35.

*Каша:* грачысная 70—80 гр. за кілегр., праціраная 85—90, пэрловая 80—95, пансак 50—60, ячменная 60—70.

*Мяса:* валовае 1.60—1.80 за кілегр. цяляціна 1·00—1.20, бараніна 1.30—1.70, сьвініна 2.40—2·50.

*Клустасьць:* сланіна 1-га сорту 3.80—4.00, 2-га сорту 3.20—3 50, сьвінны шмальц 4.50—5.00, сала 4.00—4.50.

*Малочныя прадукты:* малако 25—30 гр. за літр, сьмятана 1.40—1,70, тварог 60—80 за клг. салёнае масла 4.50—5.00, нясоленае 5.00—5.50.

*Яйкі:* 1.50—1.80 за 1 дзесятак.

*Варыва:* маладая бульба 10—15 гр. за клг., цыбуля 1.80—2 00, маладая (пучок) 5—8 гр., агуркі 7—25 гр. за дзесятак, сьвежая капуста 25—30 гр. за 1 клг.

*Ягады:* чэрэшні 1.20—1.30 за клг., чарніцы 30—35, вішні 1.00—1.20, маліны 2.20—2.40.

*Цукер:* пясок 1.33—1.36 ў гурце за клг., 1.38—1.40 у дэталі.

# Аб беларускім правапісе.

У гэтай справе „Сав. Бел." у № 154 (1749) друкуе гутарку із старшынёй Інстытуту Беларускае Культуры У. Ігнатоўскім, які між іншым сказаў:

„Асновы беларускага правапісу даўно ўжо апрацаваны. Справа толькі ў замацаваньні і апрацаваньні некаторых дэталеў... Над разьвязаньнем фонэтычных і ортографічных пытаньнеў працуе цэлы сьцяг філёлёгаў, і ў бліжэйшы час іх праца павінна завяршыцца спэцыяльнай акадэмічнай конфэрэнцыяй навучоных па правапісу.

Інбелкульт маркуе склікаць гэтую конфэрэнцыю ў бліжэйшую восень, прычым на конфэрэнцыю будуць запрошаны выдатнейшыя спэцыялісты—навучоныя ня толькі Беларусі, але Украіны, Польшчы, Чэхаславаччыны ды інш., якія займаюцца пытаньнямі беларусазнаўства.

Цяпер робіцца прыгатавальная праца ў правапісна-тэрміналёгічнай камісіі Інбелкульту, дзе зьбіраюцца адпаведныя матар'ялы і апрацоўваюцца тэзісы.

Толькі па скончаньню працы гэтай канфэрэнцыі будзе пастаўлена пытаньне аб тых ці іншых удасканальненьнях правапісу беларускае мовы на практычны грунт".

Будзем спадзявацца, што гэтак запраўды станецца. Думаем, што гэткая важная рэч, як рэформа правапісу, можа быць зроблена канечна ў паразуменьню з беларускімі філёлёгамі Заходняе Беларусі. Важна, каб праграма конфэрэнцыі разам із тэзісамі была разаслана яе ўчасьнікам наперад.

# Беларушчына у чужых мовах.

У часопісе „Zeitschrift für slavische Philologie" Лейпцыг 1924. вядомы літоўскі філёлёг К. Буга (цяпер нябошчык) надрукаваў вельмі цікаўнаю працу „Die litauisch — weissrussischen Beziehungen und ihr Alter". Вал. 26 — 55. Тутака паказаныя позычкі літоўскія з беларускае мовы, пачынаючы з дагістарычнае пары. К. Буга ўстанаўляе і пару асобных перайманьнеў. Як намочны, што падыходзе да беларускае мовы без жадных палітычных тэндэнцыеў, а вылучна з навуковага гледзішча, К. Б. ў гэтай працы прызнае, што беларуская мова беспасярэдне вылучалася з праславянскае і што ня было жаднае мовы прарускае.

Е. Карскі («Известия отд. рус. яз. Р. А. Н. XXIX 1924) ня ўрымсьціў, каб ня выступіць проці гэткага нарушэньня «рускага адзінства». Ён кажа, што аб «беларусах» нельга гутарыць раней XIII ст., калі ў пяршыню зьяўляюцца беларускія асаблівасьці» і «калі зьяўляецца самое імя «Беларусы». Але тутака-ж Е. Карскі дадае, што «магчыма, ведама, што ў народнай мове некаторыя рысы беларускага языка зьявіліся і раней паказанага часу, але тады гэта былі рысы языка Крывічоў, Дрыгвічоў, Радзімічаў і г. д.».

У гэтых словах перад намі ўвесь Карскі. Да 13 стагодзьдзя не праяўляюцца ў памятках беларускія асаблівасьці, але-ж і памяткі беларускія, ранейшыя за 13 стагодзьдзе, ня знойдзеныя, дык як-жа гэныя асаблівасьці маглі зьявіцца. Гэтак думаючы, можна сказаці, што да XVI стагодзьдзя ня было літоўскае мовы, бо першыя памяткі літоўскія зьяўляюцца толькі ў гэтым стагодзьдзю. Што да 13 стагодзьдзя былі рысы беларускае мовы прызнае і сам Карскі ў толькі што прыведзеных словах ягоных, але гэтыя асаблівасьці беларускае мовы ўсё-ж тыкі паводле Карскага не беларускія, але пляменна - крывіцкія, дрыгвіцкія і г. д., бо ня было яшчэ імя «Беларусы». З гэткімі «довадамі» можна вельмі далёка заехаці. На ўцеху Е. Карскаму дадам, што прынамся да 2-ое палавіцы XVIII ст. ня было імя «Беларусы» ў тым значэньню, у якім яго цяперака ўжываем, бо ніколі дагэнуль наш народ сябе не называў беларусамі а мовы свае беларускай. Але з гэтага ня выходзіць, што да 2-ое пал. XVIII ст. ня было нашага народу і—ягонае мовы; быў ён, але зваўся іншымі імёнамі (Крывічы, Ліцьвіны). Калі-б гэты Карскага «довад» быў запраўды довадам, дык ім Е. Карскі зрабіў-бы сабе іншаю няпрыемнасьць, нехаця зьбіў-бы ім дарагую сабе тэорыю аб прарускім народзе, бо ажно ў X ст. зьяўляецца імя «Русь» у Кіеўшчыне, а пашыраецца на ўсім славянскім усходзе не раней XIII стагодзьдзя.

*Д-р Я. Станкевіч.*

# НАША ПОШТА.

Гр. **Тодару Смолею.** Газэту Вам высылаем акуратна ад часу высылкі Вамі грошаў. Дамагайцеся на пошце.

Гр. **Антону Казаку.** Грошы атрымалі, газэту акуратна высылаем. Дамагайцеся на пошце. За добрыя пажаданьні нашай газэце шчыра дзякуем.

Гр. **А. Чайкаву.** Просьбу спаўнім.

Гр. **Саўку Марку.** Газэту высылаем. Аб грашах наведзём справу.

Гр. **Мінайлу В.** Праграму Сял. Саюзу пасылаем.

# АБВЕСТКА.

На падставе арт. III § 12 статуту, тыя сябры Таварыства, якія, ня гледзячы на пісьменнае паведамленьне Прэзыдыуму, ня ўнесьлі належнае ад іх сяброўскае складкі, лічацца выбытымі з лічбы сяброў і могуць быць ізноў унесены ў сьпіскі сяброў, калі заплацяць належныя даўгі.

Апроч таго, гэты-ж 12 параграф кажа, што „выступленьне, або выкасаваньне з лічбы сяброў не зваляе выступаючага або выкасаванага ад павіннасьці заплаціць складкі за той месяц, у якім хацеў выступіць або быў выкасаваны, а так сама ён павінен аддаць усе ранейшыя даўгі".

Пры гэтым, жадаючы выступіць з Таварыства „абавязаны наказаць аб гэтым пісьменна Упраўе".

Прэзыдыум Т-ва Бел. Школы ў Вільні.
24-VII 1926 г. Вільня, Віленская 12.

# АБВЕСТКА.

Гэтым даводзіцца да ведама сяброў Таварыства Беларускае Школы, што 8 жніўня 1926 году адбудзецца **Надзвычайны Агульны Сход Сяброў Таварыства** ў 4 гадзіны дня ў памяшчэньні пры Віленскай вуліцы № 12 — 6 дзеля рэорганізацыі Таварыства паводле нова-зацьверджанага ўладамі Статуту, гэта значыць дзеля выбару Галоўнае Управы і Нагляднае Рады.

Прэзыдыум Т-ва Бел. Школы у Вільні.
28-VII 1926 г. Вільня, Віленская 12.

# КООПЭРАТЫЎНА-ГАНДЛЁВЫЯ КУРСЫ.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры аткрывае коопэратыўна-гандлёвыя курсы ў м. Вільні. Курсы маюць на мэце прыгатаваць практычных кіраўнікоў коопэратываў, або прыватных крам.

На курсах будуць выкладацца такія прадметы: 1) Асноўа экапомікі, 2) Асновы коопэрацыі, 3)Навука аб гандлі, 4) Бугалтэрыя, 5) Беларуская гандлёвая карэспандэнцыя, 6) Польская гандлёвая карэспандэнцыя, 7) Таваразнаўства і 8) Арганізацыя коопэратываў.

Пачатак курсаў 1-га верасьня, канец 30-га ліспапада г. г. Аплата за курс 60 зл., прычым 10 прац. усіх слухачоў будзе звольнена ад аплаты, 20 прац. слухачоў будзе звольнена на 50 прац. платы. Часьць курсантаў будзе мець бязплатны інтэрнат.

Пры прыёме на курсы пяршэнства маюць безработныя вучыцялі ня з поўнай кваліфікацыяй і асобы маючыя 4-х клясовую асьвету; пажадана, каб слухачы находзілі з большых вёсак, або мястэчак.

Абсольвэнты пасьля акачаньня курсаў атрымліваюць атэстаты і пры ўчасьці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры займуцца працай на коопэратыўным грунце.

Заявы з паштовымі значкамі на адказ, прыймаюцца да 15-га жніўня г. г. у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры: m. Wilno, Zawalna 7.

# НАВАГРАДЗКАЯ
## Беларуская 8-мі кл. Гімназія
### прырода-матэматычнага тыпу

даводзіць да ведама грамадзянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1926—1927 школьны год у-ва ўсе клясы Гімназіі адбудуцца **ад 1-га да 10-га верасьня.**

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі, або апякуны.

Да заявы трэба далучыць:
1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;
3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або пераясьціцца з іншай гімназіі у гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku" аб дазволе, прылучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Заняткі ў гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.
Навука ў першай клясе бясплатна.

**Дырэкцыя.**

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.**